

*"Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу" (Сафокл)*

# ШКЛОЎ *інфо*

**№12***(54)*

*ліпень 2012*

*ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА*

## *Рыгор Кастусёў.* ЛІНІЯ ФРОНТУ. Што напалохала Лукашэнку?

***«Нам надо создать в экономическом отношении почти одно государство. Это стратегия. И к этому постараться приспособить наши политические системы. Потому что, может быть, придется еще что-то создавать помимо Евразийской экономической комиссии. Может, у нас и единая оборона будет».*** **Гэта заявіў А.Лукашэнка 22 чэрвеня 2012 года на сустрэчы з маладымі грамадазнаўцамі ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці.**

Для тых, хто прасследжвае выступленні Лукашэнкі, добра заўважна, што рыторыка яго выказванняў на дадзеную тэму можа рэзка змяняцца на працягу кароткага тэрміну.

Чаму ж ён так тэрмінова змяніў вектар свіх выказванняў у адрозненні ад сказанага крыху раней? Бо, менавіта, за тыдзень да таго на сустрэчы з прэзідэнтам Башкартастана Рустэмам Хамітавым у Мінску 14 чэрвеня 2012 г., ён зусім па іншаму рэагаваў на выказванні прэм'ер-міністра Расіі Дз.Мядзьведзева і пасла Расійскай Федэрацыі ў Беларусі А.Сурыкава аб неабходнасці тэрміновага ўвядзення расійскага рубля ў якасці адзінай валюты ў маштабе Еўразійскага саюза і правядзення прыватызацыі ў Беларусі.

"Гэта наша прыватызацыя, гэта мы будзем вырашаць, што нам прыватызаваць і калі... па якім кошце і на якіх умовах", — гучыць у яго заяве.

Наконт далейшай інтэграцыі Беларусі з Расіяй ён выказваўся ў яшчэ больш катэгарычнай форме; што яна будзе адбывацца толькі ў тым выпадку, "...калі мы не будзем наступаць адзін аднаму на горла і патрабаваць пытанняў, якія яшчэ не стаяць у парадку дня". Адназначна, гэта прагучала як адказ на пытанне па тэме аб увядзенні адзінай валюты — расійскага рубля на тэрыторыі нашай краіны.

Што ж так напалохала А.Лукашэнку, што ён вымушаны быў канцэптуальна змяніць сутнасць сваіх выказванняў на тэму інтэграцыі з Расіяй?

А адказ вельмі просты... Гэта прывіды новай "нафтавай вайны" паміж Расіяй і Беларуссю, падобнай на ранейшыя — "газавую", "малочную", але па маштабах найбольш адчувальную для эканомікі нашай краіны. Прывіды "нафтавай вайны" аказаліся больш страшнымі, чым жахі частковай страты ўлады пры аб'яднанні ў "амаль адзіную дзяржаву", якое прадугледжвае і адзіную валюту, і прыватызацыю па правілах Расійскай Федэрацыі...

За студзень-красавік 2012 года экспарт некаторых беларускіх нафтапрадуктаў — растваральнікаў і разбаўляльнікаў, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году, павялічыўся ў 7,3 разы і склаў 1705,4 млн. долараў. Экспарт змазачных алеяў, выробленых таксама з расійскай нафты, павялічыўся ажно ў 43 разы ў параўнанні з аналагічным перыядам 2010 года і склаў 590,9 млн. долараў.

Падобны беларускі бізнэс вызваў шэраг пытанняў сярод правячай эліты Расійскай Федэрацыі. Бо расійскі бюджэт губляе значныя сумы з-за непраплочаных вывазных мытаў на беларускія нафтапрадукты.

Раскрыццё афёры ў сферы гандлю нафтапрадуктамі нясе пагрозу існаванню беларускага "разбаўляльна-растваральнага" бізнэса і страту мільярдных прыбыткаў.

Для выхаду са склаўшайся сітуацыі, дзеля захавання прыбытковага бізнэсу, беларускаму боку

нічога не застаецца, як пайсці на саступкі ў выглядзе прыватызацыі актываў беларускіх прадпрыемстваў на карысць расійскаму капіталу. Акрамя гэтага, раскрыццё гандлёвай афёры дазваляе Крэмлю праз пагрозу закрыцця бізнэса атрымаць рэальныя рычагі ўплыву на беларускае кіраўніцтва з мэтай дасягнення таго, каб Беларусь урэшце выканала свае абавязальніцтвы перад Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС аб атрыманні за 2012 год выручкі ў памеры 2,5 млрд. доляраў ад прыватызацыі. Бо амаль за паўгода пакуль яшчэ ні адной буйной прыватызацыйнай здзелкі ў Беларусі не праведзена.

Такім чынам, у Крамля адкрываюцца рэальныя перспектывы праз прыватызацыю прапіхнуць у Беларусь расійскі бізнэс і не дапусціць капітал з іншых краін. А гэта дазволіць яму, у сваю чаргу, ў значнай ступені ўплываць на фармаванне коштаў прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў.

А прыватызаваць у Беларусі ёсць што, бо "беларускі пірог" да гэтай пары яшчэ не падзелены. І дзялёжка яго плануецца не на карысць беларусаў.

Толькі, напрыклад, указам № 7 ад 5 студзеня 2012 года, практычна растаптаўшы правы беларускага народу, правы працоўных калектываў, пад выглядам "благавіднага паступка" Лукашэнка адкрыў дарогу расійскаму бізнэсу да прыватызацыі 54 пасляховых беларускіх прадпрыемстваў.

А тое, што на 2013-2014 гады для Беларусі прыпадае пік выплат па знешніх абавязальніцтвах, зноўку грае на карысць Крамля. Беларусь апынулася перад рэальнай пагрозай, якая вядзе да поўнай страты эканамічнай а надалей і палітычнай незалежнасці ў выніку стварэння адзінай дзяржавы, аб чым выказаўся А.Лукашэнка ў час наведвання Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

Як паказаў час, кіраўніцтва беларускай дзяржавы цалкам і канчаткова засведчыла свой непрафесіяналізм, непатрыятызм, неўменне і нежаданне праводзіць самастойную эканамічную палітыку незалежнай дзяржавы ў інтарэсах яе народу. Ідэя ўтрымання эканомікі ў выглядзе "прыслугі" беларускай палітычнай мадэлі цалкам правалілася.

У дадзенай сітуацыі здаровым нацыянальна-патрыятычным сілам Беларусі неабходна прыняць тэрміновыя меры па непрызнанню на міжнародным узроўні падобных здзелак па продажу нацыянальнай маёмасці. Незаконныя здзелкі, праведзеныя з парушэннямі беларускага заканадаўства павінны будуць падлягаць перагляду.

Читать полностью:

http://naviny.by/rubrics/opinion/2012/07/02/ic_articles_410_178333/

## Шклов и танки

Ох, уж эти праздники! Что ни выходной, то повод для радости – День Независимости, день города, профессиональные праздники, зарплата, аванс, а там рядом и первый понедельник месяца – чем не причина остограммиться? В особом ряду чужие праздники, органично вписавшиеся в нашу счастливую жизнь. Чего только стоит празднование Великой Октябрьской революции, которая в России давно уже значится как антигосударственный переворот. Или, например, двухсотлетие победы России в Отечественной войне 1812 года. Впрочем, боевые действия русской армии против войск Наполеона оставили свой героический след и на шкловской земле - 10 октября 1812 года отряд казаков во главе с подполковником Храповицким прославленного партизанского соединения Дениса Давыдова освободил Шклов от французов. А 28 ноября в местечке Староселье на короткое время разместился штаб главнокомандующего русской армии М.Кутузова. Именно здесь был окончательно утвержден план разгрома французов на реке Березине. Среди участников Отечественной войны были и воспитанники бывшего Шкловского шляхетского училища, основанного С.Зоричем. Благодарные шкловчане для увековечивания героических событий того времени в Шклове установили памятный знак – мемориальную доску (на момент подготовки материала исчезнувшую) и скульптуру бравого обер-офицера гренадерской роты лейб-гвардии

Измайловского полка. Отныне гренадер ростом 2,5 метра приветствует гостей райцентра и уже стал символом города, так считают местные власти, наряду с памятником огурцу.

Гренадер стал завершающим звеном милитаризации истории города Шклова. Танк, БМП, БТР, которые сосредоточились в центре города, да и трактор, который успешно использовался на войне тыловыми службами, очень даже грозная бронетанковая сила. Бравый генерал-серб Зорич обзавелся собственным русским солдатом, чем еще более усилилась военная мощь местных исторических экспонатов.

Но параллельно возникает ряд вопросов, на которые нынешние стратеги от истории дать ответ вряд ли смогут. И первый из них касается итогов войны 1812 года и роли Наполеона в жизни белорусов. Почему та война обернулась геноцидом для белорусского народа и все самые большие надежды наши предки возлагали не на россиян-«освободителей», а на французских «завоевателей»? Об этом нам поможет рассказать историк Анатолий Тарас, который недавно издал книгу «1812 год – трагедия Беларуси».

— Как раз более древние вещи и вызывают у людей интерес. Великая Отечественная надоела, потому что о ней долдонили 50 лет подряд. А про войну 1812 года среднестатистический человек не знает практически ничего. Спрашиваешь, как фамилия Наполеона? Молчат. Кто был Кутузов по национальности? Говорят, русский! Тогда как он был на самом деле татарином. И про Бородино помнят только лермонтовское: «Скажи мне, дядя, ведь недаром…». Многие до сих пор уверены, что Бородинскую битву выиграли русские. Как так, если потери царской армии превысили потери французов в 2,5 раза? И Москву они сдали. О победе судят по результатам.

Чем та война обернулась для наших предков и для наших земель? Не для русских, не для французов, не для поляков, а именно для нас. Традиционно принято было говорить: «Отечественная война русского народа, в которой белорусский народ тоже понес жертвы». Не тоже. Он-то и понес! 90% всех боевых действий в эту войну были на территории Беларуси. Я имею в виду наши этнические земли — Гродненская, Виленская, Минская, Витебская, Могилевская, Смоленская губернии и Белостокская область. Получается, что в «Отечественной войне русского народа» страдал народ белорусский.

— В этом году 200 лет этой так называемой «Отечественной войне русского народа против французских агрессоров». Начало всех юбилейных мероприятий 24 июня – когда войска Наполеона перешли Неман, т.е. границу Российской империи. Следующее крупное событие – 29 августа, когда произошло Бородинское сражение.

Воевали между собой французы и русские. Русские по отношению к нам были захватчиками – люди, которые ликвидировали наше древнее государство — Великое Княжество Литовское, существовавшее 550 лет.

**— Значит, рассказы о том, как белорусский народ плечом к плечу героически сражался с французскими завоевателями — пропагандистские сказки советских учебников?**

— Тогдашнее население белорусских земель воспринимало это следующим образом: шляхта мечтала восстановить с помощью Наполеона ВКЛ (и он, действительно, попытался это сделать), крестьяне надеялись, что с приходом французов будет отменено крепостное право, священнослужители униатской и католической церквей рассчитывали восстановить ведущее положение в обществе (а это 77% населения против 6,5% православных), мещане и купечество надеялись на углубление буржуазных порядков. То есть все слои населения были за Наполеона. Кто открыто, с энтузиазмом, как шляхта, кто подспудно, как крестьяне. Все они свои интересы отождествляли с ним, а не с Россией.

Но это была война со всеми ее ужасами. Сначала французы наступали, русские отступали — здесь все горело, рушилось, людей убивали, скот резали, дома жгли, пушки крушили здания. Потом здесь 3-4 месяца хозяйничали французские интенданты, которым надо было кормить армию. Потом французы отступали, русские наступали — опять все горело, гибло и т.д. (продолжение на стр.7)

*А.Грудзіна, П.Мігурскі*

# ГІСТАРЫЧНЫ БРЭНД ШКЛОВА І ПРЫВАБЛІВАСЦЬ ІНВЕСТЫЦЫЙ

Гісторыя Беларусі 16-18 стагоддзяў характарызуецца росквітам гарадоў, насельніцтва якіх імкнулася да своеасаблівай вольнасці і самастойнасці. Адпаведных мэт яны маглі дасягнуць праз атрыманне Магдэбургскага права.

Магдэбургскае права ўзнікла ва ўсходненямецкім горадзе Магдэбурзе яшчэ ў 13 стагоддзі і ўяўляла звод правоў і прывілеяў для жыхароў еўрапейскага горада. Юрыдычныя нормы, замацаваныя адпаведным дакументам, спрыялі развіцю эканамічнай і грамадска-палітычнай дзейнасці гараджан, вызначалі іх стан і маёмасныя правы. Гэта забяспечвала гарадам развіццё рамяства і гандлю, бараніла іх ад уціску феадалаў і адміністрацыі, спрыяла саслоўнаму адзінству. Горад, які атрымліваў Магдэбургскае права, меў магчымасць ствараць выбарчы орган – магістрат і самастойна вызначаць дзейнасць усяго гарадскога жыцця.

Непасрэдна Шклоў атрымаў адпаведную магчымасць дзесьці ў 70-х гадах 16 стагоддзя, амаль адначасова з Магілёвам. “Бурмистр места Шкловского Исай Зенович” згадваецца ў дакуменце 1577 года аднaчасова з войтам, радцамі і лаўнікамі.

Магістрат праводзіў пасяджэнні ў спецыяльным будынку – ратушы, абавязковым элементам якой з’яўлялася вежа з гадзіннікам – сімвал гарадскога самакіравання. Слова “ратуша” паходзіць ад нямецкага “Rathaus” і азначае “дом сходаў”, або месца знаходжання органаў гарадскога магістрата. Існаванне ў горадзе адпаведнага будынка дадаткова пацведжвае, што і Шклоў некалі быў самастойным еўрапейскім горадам.

Горад быў удала размешчаны на ажыўленай сухапутнай і воднай гандлёвых дарогах. Знаходзячыся ў асяродку густанаселенага рэгіёна, дзе пераважала грашовая рэнта і была слабай фальваркавая гаспадарка, Шклоў з’яўляўся яго адміністрацыйным, гаспадарчым і культурным цэнтрам. Да таго ж ён стаў рэдкім прыватнаўладальніцкім горадам, дзе адсутнічала мытная камора, што вельмі прываблівала замежных і мясцовых гандляроў і давала вялікія прыбыткі ўладальніку горада і магістрату.

Тэрытарыяльнаму, эканамічнаму росту і ваеннай магутнасці горада таксама садзейнічала моцная ўлада гарадскога самакіравання, якая стрымлівала рост у Шклове рознага роду юрыдык (суб’екты, якія не падпарадкоўваліся магістрату) – неад’емных атрыбутаў дэцэнтралізацыі.

Сіла мясцовага магістрата таксама заключалася ў асаблівых, галоўным чынам грашовых, узаемаадносінах паміж Шкловам і ўладальнікамі горада, якім шклавяне плацілі толькі за арэнду. Узровень дабрабыту гараджан быў такі, што іх камерцыйную дзейнасць крэдытавалі нават віленскія і рускія купцы. Своеасаблівы лібералізм у Шклове абараняў гараджан ад злоўжывання адміністрацыі, што спрыяла развіццю рамёстваў.

Па дадзеных інвентару 1643 года ў Шклове налічвалася 175 (з улікам на мяснікоў 188) рамеснікаў 45 прафесій. У 1650 года толькі мяснікоў, пекараў, алейшчыкаў, шаўцоў, скарнякоў, крухмальшчыкаў, прадаваўшых тавар у лаўках і адвезеных ім “лектевых” месцах, складала ўжо каля 300 чалавек. У горадзе працавала 36 мясных лавак, 55 хлебных, 38 лавак алейшчыкаў і 4 крухмальшчыкаў. Такім чынам, Шклоў у першай палове 17 стагоддзя быў адным з цэнтраў рамесніцкай вытворчасці на Беларусі.

Трэба сказаць, што самакіраванне ў адпаведнасці з Магдэбургскім правам безумоўна садзейнічала росквіту горада і як вынік, Шклоў у першай палове 17 стагоддзя займаў сёмае месца па памерах і колькасці насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім, уступаючы толькі сталічнай Вільні, а таксама Магілёву, Бярэсцю, Слуцку, Менску і Полацку.

Пасля анэксіі беларускіх зямель расійскай імперыяй было зліквідавана Магдэбургскае

права і ў Шклове з'явіліся новыя уладары – спачатку князь Р.Пацёмкін, а праз невялікі час (1778г.) былы вайсковец С.Зорыч. З гэтага часу паступова пачаўся эканамічны заняпад шклоўскіх зямель.

Найцікавейшы ў гістарычным і архітэктурным плане будынак шклоўскай ратушы стаў непатрэбным імперскім уладам і выкарыстоўваўся пад гаспадарчыя патрэбы.

За савецкім часам будынак ратушы выкарыстоўваўся як аддзяленне Дзяржаўнага банка, пажарнай службы, а напрыканцы 70-х гадоў навогуле быў закінуты і паступова разбураўся..

Але, дзякуючы агульным намаганням і сапраўднаму энтузіязму шматлікіх прыхільнікаў адраджэння шклоўскай ратушы, у лістападзе 1999 года яе будынак зноў паўстаў прыгожым архітэктурным ансамблем. У адзіны комплекс "упісаны" гістарычны архітэктурны помнік і навучальная ўстанова. У час адкрыцця ва ўтульным ўнутраным дворыку, дзе сабраліся вучні, настаўнікі, бацькі і гасці, сімвалічны ключ тагачаснаму дырэктару школы Аляксандру Бандаруку ўручыў упраўляючы будаўнічым трэстам №18 г. Орша В.С.Чайкоў. Адзін з лепшых у рэспубліцы, своеасаблівы і арыгінальны праект здзейсніўся, а ў нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі з'явіўся найцікавейшы аб'ект, які паранейшаму надае годнасць нашаму народу.

Зараз непасрэдна ў будынку былой ратушы створаны і працуе гісторыка-краязнаўчы музей. Галоўным стваральнікам і апантаным руплівцам музейнай экспазіцыі з'яўляецца настаўнік гісторыі Валерый Губін. Статус школы ўзвысіўся да гарадской гімназіі. Усё гэта вельмі радуе і цешыць думкі.

Але, на наш погляд, каштоўнасць гітарычнага помніка выкарыстоўваецца не на поўную магчымасць. Галоўны гістарычны брэнд Шклова павінен, як і ў сярэдневеччы, прыносіць і эканамічныя дывідэнды. Нашы таленавітыя продкі перадалі нам у спадчыну шматлікія ўзоры гармоніі, прыгажосці і прыклады асаблівых узаемаадносін паміж уладарамі горада і простым насельніцтвам, стымуляванню прадпрымальніцкай дзейнасці, прываблівасці інвестыцыйных праектаў.

Бадай, самым актуальным у гэтым плане у нашай краіне на сучасны момант з'яўляецца павышэнне ролі самакіравання на мясцовым узроўні, што паспрыяе больш эфектыўнай працы кіраўніцтва любога ўзроўня, суб'ектаў гаспадарання, павышэнню сацыяльнай актыўнасці бальшыні насельніцтва. Галоўным элементам самакіравання з'яўляецца выбарнасць і справаздачнасць усіх структур улады, што прывядзе як да актывізацыі упраўленчых структур, так і да павялічэння адказнасці службовых асоб. І ў першую чаргу за напаўненне мясцовага бюджэта, што, у свой час, з'явіцца "лакаматывам" развіцця малога і сярэдняга бізнэса за лік максімальнага выкарыстання мясцовых рэсурсаў, што заканамерна прывядзе да роста дабрабыта насельніцтва.

Мясцоваму самакіраванню трэба прыдаць статус прыярытэта ў пытаннях вызначэння ільготаў для нацыянальных і замежных інвестараў у сацыяльна-культурныя і вытворчыя праекты.

Зараз у Беларусі будынкі ратуш упрыгожваюць сваімі вежамі гістарычныя мясціны толькі у шасці гарадах краіны. Але выкарыстоўваюцца яны не заўсёды па прамому прызначэнню, што некалькі прыніжае іх гістарычную годнасць, а таксама як нацыянальную і еўрапейскую спадчыну.

Прапануем, як першы крок, на тэрыторыі тых горадоў, якія ў гістарычным мінулым мелі Магдэбургскае права, стварыць своеасаблівые свабодныя эканамічныя зоны, з дапамогай якіх стымуляваць адраджэнне іх гістарычнай спадчыны.

Непасрэдна ў Шклове зараз ратуша выкарыстоўваецца гарадской гімназіяй, побач знаходзіцца мемарыял "Памяць". Гэтыя аб'екты заўсёды патрабуюць фінансавай падтрымкі, таму рэалізацыя нашых прапаноў можа станоўча паўплываць на іх захаванне і развіццё.

***PS: Дадзенае інфармацыйнае паведамленне была агучана на навукова-практычнай канферэнцыі "Магдэбургскае права на Магілёўшчыне: учора, сёння, заўтра", якая адбылася ў горадзе Магілёве 1 ліпеня 2012 года.***

***Запрашаем жыхароў Шклоўскага раёна да дыскусіі. Рэдакцыя газеты.***

# Сацыялагічнае апытанне: гістарычная памяць беларусаў

Другая частка даследавання, праведзенага ГКК "Будзьма беларусамі!" і лабараторыяй "Новак" у сакавіку 2012 года, прысвечаная пытанню гістарычнай памяці беларусаў.

Калі пачалася Беларусь? У часы Полацкага княства або ВКЛ (Вялікага Княства Літоўскага)? Дзе вытокі нашай дзяржаўнасці: у БНР ці ў БССР? Адказ на гэтае пытанне кожны беларус мусіць даваць не задумваючыся. Аднак амаль 15% рэспандэнтаў не могуць адказаць на гэтае пытанне ўвогуле. Што да тых, хто ўсё-ткі вызначыўся, дык смела можна сцвярджаць: беларусы лічаць, што беларуская дзяржава мае карані ў Сярэднявеччы. 25% мяркуюць, што Полацкае і Тураўскае княствы былі першымі беларускімі дзяржавамі, а 44,8% апытаных мяркуе, што першая беларуская дзяржава – ВКЛ, прычым так лічаць і маладыя людзі, якім гэта выкладаецца ў школе, і прадстаўнікі сталага пакалення.

Ёсць і такія, што думаюць, што беларусы займелі сваю дзяржаву толькі ў XX стагоддзі. На баку БССР – 18,2% і 9,9% на баку БНР, як крыніцы беларускай дзяржаўнасці. Такім чынам, адрыў "савецкасці" ад "нацыянал-дэмакратчынасці" ў поглядах на вытокі нашай дзяржавы зусім нязначны, усяго 8%.

Але нягледзячы на тое, што, на думку рэспандэнтаў, вытокі Беларусі – у Сярэднявеччы, апытаныя не лічаць лагічным вынікам гэтага факту тое, што ў такім разе дзяржаўнымі сімваламі нашай краіны мусяць стаць бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Наадварот, 67,5% рэспандэнтаў лічаць сваімі сімваламі дзейныя дзяржаўныя герб і сцяг. Бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню" лічаць сваім сімвалам толькі 9,7% апытаных.

Гістарычная памяць народа – гэта не толькі веданне вытокаў дзяржаўнасці, але і гістарычных постацяў, аб'ектаў нацыянальнага гонару. Адно з пытанняў гучала так: "Калі беларускі гістарычны дзеяч, дык гэта…" Людзям прапаноўвалася самім называць гістарычных асобаў: Францыск Скарына (20,6%), Пётр Машэраў (9,9%), Кастусь Каліноўскі (8,4%), Ефрасіння Полацкая (4,5%), Аляксандр Лукашэнка (2,2%), Тадэвуш Касцюшка (2,2%), Леў Сапега (1,6%), Вітаўт (1,0%). Астатнія постаці набралі меней за 1% "прыхільнікаў". Не змаглі даць адказу на гэтае пытанне 40,5% рэспандэнтаў.

Аднак гэта не сведчыць пра дрэнную інфармаванасць беларусаў. Параўнаем гэтыя вынікі з вынікамі закрытага апытання, калі людзям прапаноўвалі варыянты адказаў. Францыска Скарыну ведаюць 95,7% апытаных, Ефрасінню Полацкую – 92,9%, Кастуся Каліноўскага – 76,2%, Тадэвуша Касцюшку – 70,2%, Веру Харужую – 63,5%, Вітаўта – 47,1%, Льва Сапегу – 46,9%, Усяслава Чарадзея – 38,2%, Алену Мазанік – 23,1%, Змітра Жылуновіча – 15,5%.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што беларусы ведаюць гістарычных асобаў, але гэтыя асобы недастаткова раскручаныя ў грамадстве для ўяўлення пра іх як пра нацыянальных герояў. Пра гэта ж сведчаць і адказы на пытанне "Каму варта паставіць помнік у вашым горадзе": амаль 72% мінчукоў і 83,3% немінчукоў не ведаюць, што адказаць на гэтае пытанне. У Мінску Машэраў выйграе ў Скарыны (7,5% супраць 3,0%), не ў Мінску Скарына выйграе ў воінаў Другой сусветнай (1,6% супраць 1,1%) і ў Якуба Коласа (0,8%). Таксама ў Мінску 2,3% беларусаў паставілі б помнік Каліноўскаму, 1,7% – Лукашэнку, 1,2% – Васілю Быкаву.

Пры гэтым на пытанне "Пра якую постаць з беларускай гісторыі вам было б цікава даведацца больш?" самым папулярным стаў адказ "такіх няма", які далі 4,7% апытаных, за ім ішоў адказ "Ефрасіння Полацкая", пра якую хацелі б даведацца больш усяго - 3,3% беларусаў.

Такім чынам, можна зрабіць адназначную выснову, што пры дастаткова добрай інфармаванасці пра гістарычныя постаці беларусы не ведаюць, хто з іх варты помніка. Мы назіраем пэўны крызіс "пантэону герояў": прыклады савецкай эпохі адышлі ў мінулае, а героі, што былі б узорам для сучасных беларусаў, не з'явіліся.

Адказы беларусаў выразна дэманструюць крызіс не столькі нацыянальнай ідэнтычнасці,

Мая дзякуючы незалежнасці ўсё ж фармуецца, а крызіс дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры.

Кампанія “Будзьма беларусамі!” перакананая, што менавіта слынная гісторыя беларускага народа, у якой бачыць вытокі беларускай дзяржавы большасць нашых суграмадзянаў, мусіць стаць крыніцаю для фармавання “пантэону беларускіх герояў”. Пазітыўныя прыклады іх жыцця, папулярызацыя актыўнай грамадзянскай пазіцыі, якой прытрымліваліся найлепшыя з нашых папярэднікаў, дапамогуць у выпрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі, будуць выдатным падмуркам для пабудовы дзяржаўнай ідэалогіі. Вынікі даследавання выразна сведчаць, што менавіта на папулярызацыі ўласных герояў, што працавалі на карысць сённяшняй Беларусі, мусяць сканцэнтравацца высілкі, як дзяржаўных установаў, так і грамадзянскай супольнасці.

Паводле партала ТБМ: **www.tbm-mova.by**

## “Шклов и танки”

Так что это была не «Отечественная война». В отношении наших предков больше подходит такой термин, как геноцид, потому что жертвами войны стало 25% населения Западных губерний. Были также элементы гражданской войны, потому что одни наши предки, в основном шляхта, воевали за Наполеона, а другие — крестьяне — за царя. Последних, конечно, никто не спрашивал, их насильно забирали в рекруты — одно из самых больших бедствий, которое принесли русские. Парня забирали на 25 лет, и он  в 9 из 10 случаев уже не возвращался. До этого в Речи Посполитой рекрутской повинности  не было, была наемная армия.

В книге я привожу цифры: на землях этнической Беларуси проживало тогда 7,9% от населения Империи, которое составляло 43 млн. А между тем именно с нашей территории было взято 220 тысяч рекрутов — это уже не 8% от вооруженных сил Империи, а 25,43 %. Вот какое было злодейство! А если брать только сухопутные войска без казаков, то белорусские рекруты составляли 43% армии. Вот они-то и воевали! За чужого царя, за чужое дело, и никто их не спрашивал.

**— И чем эта война обернулась для белорусского народа?**

— Название четко гласит — трагедией. Трагедией по нескольким причинам. Первое: наши земли, наше население постигла демографическая катастрофа. От боевых действий как таковых погибло сравнительно немного. В основном, погибали от голода, который начался еще накануне войны, и от эпидемических заболеваний.

Русские совершенно сознательно поставили себе политику опустошения Западных губерний: выгребали все подчистую. Чем будут питаться и как жить местные граждане, их абсолютно не интересовало, как это не интересовало сталинских комиссаров в 1941 году. Начавшийся голод усилился во время войны, потому что грабили все — и те и эти. Русские грабили больше. Не потому что кто-то хуже или лучше, просто они здесь дольше похозяйничали.

Но самое главное: в результате того, что на земле осталось валяться гигантское количество непогребенных трупов людей и лошадей, весь 1813 год здесь были эпидемии неизвестных болезней. Больше всего населения умерло именно от этого. Министр полиции Балашов в рапорте царю сообщал, что за весну-лето только по главной военной дороге от Москвы до Вильни было закопано 430 тысяч человеческих трупов и 380 тысяч трупов лошадей. В окрестностях Лепеля, где не было ни одного боя, было погребено 3,5 тысячи трупов людей. Вся Беларусь была густо усеяна трупами. Они разлагались, отравили реки, озера, колодцы. Вспыхнула эпидемия. Ее называли «гнилая горячка» — что это, никто не знает.

По официальным данным уездных и губернских предводителей дворянства, поданных в 1813 году, а также по данным люстрационных комиссий, которые определяли ущерб помещиков по численности податных крестьян, население в среднем сократилось на 25%. А в восточных губерниях и уездах на 30% и более. Максимальный рекорд — 38%. Это страшные цифры.

Второй момент — здесь был причинен колоссальный материальный ущерб.

(продолжение следует)

*И.Мигаев*

# ПАДТРЫМЛІВАЮ!

У артыкуле “ВЫНІКІ ЯГО ПРАЦЫ ПАРАНЕЙШАМУ ВЕЛЬМІ ЗНАЧНЫЯ”, які быў надрукаваны ў №53 за гэты год, вельмі добра апісана дзейнасць нашага земляка, былога міністра шляхоў зносін Расіі Апалона Крывашэева. Дзякуючы намаганнямі якога ў горадзе паўстала папяровая фабрыка і цудоўны прыгожы парк. Таксама паведамляецца, што некалі нават былі прапановы ўсталяваць гэтаму чалавеку ў Шклове помнік.

У сваю чаргу хачу дадаць, што дзякуючы Крывашэіну ў Шклове паўсталі і шматлікія чыгуначныя збудаванні. Жыхары горада добра ведаюць так званыя “трубы”, якія праходзяць пад чыгункай для прахода людзей і жывёлы. Пабудовы і сёння ўражваюць сваёй дасканаласцю і высокаякаснай будаўнічай працай. Сучасным будаўнікам яшчэ трэба павучыцца якасці працы стогадовай даўнасці. Між тым, не ўсе ведаюць, што гэтыя “трубы” (глядзі здымак) у час апошняй вайны выконвалі і дадатковыя функцыі. Яны з’яўляліся вельмі добрым сховішчам у час бамбёжак для жыхароў бліжэйшых вуліц. У першую чаргу гэта датычыць жыхароў “Шабанаўкі”, або сучаснай вуліцы Землянічнай. Таму прапанову ўсталяваць помнік Крывашэеву падтрымліваю!

Жыхар Шклова Марчанка

Рэдакцыя спадзяецца на працяг дыскусіі сярод жыхароу горада і выказвае падзяку пакуль яшчэ нешматлікім карэспандэнтам, якія знайшлі час для выказвання сваіх думак наконт абазначанай тэмы.



Адказны за выпуск Мігурскі П.С. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618; 8 0298 499670
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.